# Голас Радзімы

№ 35 (2125)
31 жніўня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Ціхая раніца.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## З ВУЧЭННЯ ВОЙСК БВА

**Завяршылася вайсковае вучэнне на тэрыторыі Беларускай ССР. У ходзе яго адпрацоўваліся пытанні кіравання і ўзаемадзеяння, удасканалення палявой вывучкі войск.**

**Згодна з ацэнкай кіраўніцтва вучэннем, яно прайшло павучальна, паказала ўзросшы ўзровень палявой вывучкі войск. Мэты, пастаўленыя на вучэнні, дасягнуты. Войскі, якія прымалі ў ім удзел, вяртаюцца ў месцы пастаяннай дыслакацыі.**

**На вучэнні прысутнічалі назіральнікі ад шэрагу дзяржаў-удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.**



# ХОЧАШ МІРУ— РЫХТУЙСЯ... ДА ЯГО

На гэты раз перакладчыкам амаль не было чаго рабіць. Замежныя генералы і палкоўнікі, якія зноў прыехалі на вучэнні войск Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, прыкметна дасканалілі свае веды па рускай мове. Зрэшты, ім — спецыялістам па Савецкай Арміі — мову трэба ведаць дасканала. 45 назіральнікаў з 28 дзяржаў прысутнічалі на сёлетніх вучэннях. Такое мноства высокіх чыноў розных армій ужо не дзіва для беларускіх журналістаў, і яны храбра атакуюць заходніх і савецкіх генералаў:

— На мове ваенных вы — «верагодныя праціўнікі»..

— Ні ў якім разе,—адказвае брыгадны генерал Патрык Вігла, ваенны аташэ пры пасольстве Французскай рэспублікі ў СССР.— Мы не праціўнікі, мы — калегі. І я займаюся тым жа, чым і вашы ваенныя, калі прысутнічаюць у якасці назіральнікаў на вучэннях у нашых краінах.

У адпаведнасці з дакументам Стакгольмскай канферэнцыі, кожная дзяржава, якая праводзіць манеўры, абавязана запрашаць на іх замежных назіральнікаў. У ваеннай гульні ў кожнага назіральніка свая роля. Адзін, скажам, сочыць за дзеяннямі танкавых войск «паўднёвых», другі — за артылерыяй «паўночных», трэцяга цікавіць авіяцыя.

Задача генерала Вігла, напрыклад,— вывучыць тактыку абароны дэсантнікаў.

— Калі вы вернецеся ў Францыю, пра што вы даложыце свайму камандаванню?

— Пра тое, што вывучка савецкіх салдат стала вышэйшай. Я б паставіў ім «пяцёрку».

Аднак не толькі іншаземцам задавалі журналісты каверзныя пытанні:

— Колькі будуць каштаваць гэтыя вучэнні?

— Ды ўжо ж больш, чым генеральская зарплата,— жартуе генерал-лейтэнант Пётр Лядзяеў.— А ў нашых вучэннях прымае ўдзел не адзін танкавы полк, ды яшчэ авіяцыя, верталёты. Вядома, усё гэта абыходзіцца ў капеечку, вось чаму цяпер робяцца захады для скарачэння расходаў на ваенныя патрэбы.

— Узаемнае скарачэнне войск — справа вельмі выгадная,— лічыць брыгадны генерал Патрык Вігла.— Наша краіна аб'явіла, што на будучы год мы скароцім 10 армейскіх часцей. Вядома, гэта не так многа, але ж Францыя невялікая, і такое скарачэнне дапаможа многім французам больш упэўнена стаяць на нагах. У час леташніх вучэнняў,— працягвае генерал Вігла,— нам, назіральнікам, паказалі Хатынь. На гэты раз мы зноў ездзілі туды. Я думаю, гэта нядрэнная думка — напомніць ваенным аб выніках, якія пакідае вайна. У рэшце рэшт мы, ваенныя, будзем першымі ахвярамі вайны. «Хочаш міру — рыхтуйся да вайны» — гэтая формула ў нашы дні відавочна ўстарэла.

Патрык Вігла служыць у арміі 35 гадоў. У яго дарослы сын і дзве маленькія дачкі. «Я не хачу,— гаворыць французскі генерал,— каб мае дзеці зведалі на сабе жахі вайны. І таму лічу за лепшае сустракацца з вашымі ваеннымі ў час вучэнняў, а не на полі бою».

Хацелася б спадзявацца, што і генерал Вігла, якому не спадабалася слова «праціўнік», і амерыканскі генерал Тылелі, і іх калега з Вялікабрытаніі генерал Файф... Хацелася б думаць, што ўсе яны, хто назіраў за ходам вучэнняў, ніколі не скарыстаюць на справе навыкі, набытыя ў ваенных гульнях. Бо калі хочаш міру — рыхтуйся... да яго.

**Дзмітрый ФІЛІМОНАЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: ідзе вайсковае вучэнне Беларускай ваеннай акругі.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

МІЖРЭГІЯНАЛЬНАЯ ДЭПУТАЦКАЯ ГРУПА

# АПАЗІЦЫЯ? ТАК, АПАЗІЦЫЯ АПАРАТУ

У канцы ліпеня ў Маскоўскім доме кіно прайшла двухдзённая канферэнцыя міжрэгіянальнай групы народных дэпутатаў СССР. Быў выбраны Каардынацыйны савет з 25 чалавек на чале з пяццю сустаршынямі — Юрыем Афанасьевым, Барысам Ельцыным, Віктарам Пальмам, Гаўрыілам Паповым і Андрэем Сахаравым. Пра мэты групы расказвае член гэтага савета дэпутат **Міхаіл ПАЛТАРАНІН.**

— Пакуль нас каля 400 чалавек — дэпутаты з усіх рэспублік, акрамя Туркменіі. Дарэмна быў кінуты папрок, быццам для заявы аб стварэнні групы (на сесіі Вярхоўнага Савета яе зачытаў Барыс Ельцын) мы выбралі «гарачы момант»: забастоўкі шахцёраў, міжнацыянальныя сутыкненні ў Закаўказзі.

Менавіта тады многія «перыферыйныя» дэпутаты канчаткова зразумелі, што апарат спрабуе маніпуліраваць з'ездам і што прыйшоў час у імя дэмакратыі аб'яднацца з намі, маскоўскімі радыкаламі. Перад апошнім днём з'езда мы дапазна сачынялі «маніфест» міжрэгіянальнай групы, падпісалі яго больш за сто пяцьдзесят чалавек, і раніцай мы падалі заяўку ў прэзідыум з просьбай даць слова, каб апублікаваць дакумент. Але ў сярэдзіне дня мяне падазваў да сябе Міхаіл Гарбачоў і важкімі аргументамі пераканаў пачакаць з гэтай заявай. На самай справе, гарэлі ў крывавых пажарах дамы Ферганы, згусцілася напружанасць у іншых рэгіёнах. Адклалі мы тады і арганізацыйнае афармленне групы.

Цяпер яно адбылося. У склад Каардынацыйнага савета ўвайшлі такія папулярныя дэпутаты, як Еўдакія Гаер з Далёкага Усходу, масквіч Тэльман Гдлян, свердлаўчанін Уладзімір Волкаў, Аляксандр Абаленскі з Мурманскай вобласці, ленінградзец Анатоль Сабчак, акадэмік Уладзімір Ціханаў і ўкраінская журналістка Ала Ярашынская. На канферэнцыі былі выпрацаваны праграмы практычнай дзейнасці групы і пакет альтэрнатыўных законапраектаў для абмеркавання Вярхоўным Саветам.

У гісторыі Савецкага Саюза яшчэ не было падобных дэпутацкіх аб'яднанняў — напэўна, таму адносіны да групы ў «вярхах» крыху насцярожаныя. Падхалімы нашэптваюць лідэрам нашай краіны: справа, маўляў, тут нячыстая. Не інакш як ствараецца ядро будучай апазіцыйнай партыі ці фарміруецца ценевы Вярхоўны Савет. (Хаця ведаюць, што ў складзе групы 90 членаў Вярхоўнага Савета, члены яго камісій і камітэтаў, што статус групы прызнае Міхаіл Гарбачоў).

Куды мы клічам — ці не да расколу дэпутацкага корпуса, які налічвае 2 250 чалавек? Бо менавіта так прадстаўляюць нашы намаганні прыхільнікі паказной маналітнасці, што разбурае грамадства. Не, мы супраць расколаў, але мы за дэмакратычную парламенцкую практыку, калі дэпутаты — не пешкі ў гульні, а важкія палітычныя фігуры з законным правам ствараць унутры корпуса групы па палітычных, эканамічных, жыццёвых інтарэсах.

Ёсць у міжрэгіянальнай групе сяляне, рабочыя, ёсць урачы, інжынеры, пісьменнікі і вучоныя. На якой яны аб'ядналіся платформе? Адказ на гэта даецца ў першым нумары газеты «Народный депутат», выпушчаный групай да адкрыцця канферэнцыі. Вось што ў ёй гаворыцца: «Узровень жыцця народа працягвае катастрафічна падаць. Як апрануць, абуць, накарміць краіну? Ёсць розныя шляхі дасягнення гэтых мэт. Нам патрэбен самы кароткі і самы эфектыўны. Большасць з'езда па ім не пайшла. Рашэнне надзённых праблем адкладзена на няпэўны тэрмін. Гэта прывяла да забастовак, абвастрэння міжнацыянальных адносін, сацыяльнай напружанасці. Міжрэгіянальная група народных дэпутатаў СССР ставіць перад сабой задачу аб'яднання ўсіх здаровых сіл для вываду краіны з крызісу». Выйсце міжрэгіянальная група бачыць у радыкалізацыі перабудовы.

Сярод самых неадкладных мер удзельнікі двухдзённых дыскусій назвалі перадачу ўсёй улады народу, а зямлі і сродкаў вытворчасці — працоўным. А якія ў групы адносіны да нацыянальных пытанняў? Анкетнае апытанне паказала, што 83 працэнты яе членаў выступаюць за палітычнае і эканамічнае самавызначэнне саюзных рэспублік.

У бюракратычных салонах Масквы хочуць прадставіць канферэнцыю як спробу «няўрымслівага» Ельцына афіцыйна зацвердзіць сябе аднаасобным лідэрам групы. Сведчу, што гэта не так. Напярэдадні канферэнцыі мы, члены аргбюро, да паўночы абмяркоўвалі ў гасцініцы «Масква» пытанне аб старшыні. Большасць называла кандыдатуру Барыса Ельцына. Але менавіта ён прапанаваў адысці ад адзінаначалля і прыняць форму сустаршынства.

А на канферэнцыі быў такі эпізод, па-мойму, не заўважаны залай. Ледзь пачаліся выступленні, як пад Ельцыным у першым радзе бясшумна абвалілася сядзенне крэсла. Я сядзеў побач і жартам сказаў, што гэта знак крушэння ў краіне ідэалогіі асабістай улады. Як бы там ні было, а група зрабіла выбар: кіраванне павінна быць калегіяльным.

Мы пакуль толькі пачынаем сваю няпростую работу. Карысную, як нам здаецца, справу даводзіцца цягнуць праз строй недавер'я, адплёўваючыся ад ярлыкоў. Што ж, новае ніколі не ўваходзіла ў нашу палітыку, як гарачы нож у масла. Адпраўляючыся цяпер па акругах да выбаршчыкаў, дэпутаты бяруць з сабой праграмныя дакументы, выпрацаваныя канферэнцыяй. Ці прывабяць нашы ідэі людзей — пакажа час.





**Не пазнаць цяпер жыхарам Валожына зарослы раней бур'яном яр. Па заказу гарадскіх улад і па ініцыятыве студэнтаў Беларускага політэхнічнага інстытута, якія прапанавалі свой праект, ідзе забудова і разбіўка паркавага ансамбля.**

**Ужо трэці працоўны семестр праводзіць у Валожыне студэнцкі будаўнічы атрад БПІ «Дойліды». На добраўпарадкаванай тэрыторыі парку цяпер працуе дзіцячае кафэ, цір, летняя эстрада, казачны гарадок для гульняў. Акуратна разбітыя, прыгожыя алеі студэнты «засялілі» выразанымі з дрэва фантастычнымі фігурамі птушак і звяроў. У сёлетні працоўны семестр яны плануюць закончыць тут усе работы. Але ўжо сёння гарадскі парк стаў любімым месцам адпачынку і дзяцей, і іх бацькоў. А малых сюды прыводзяць цэлымі групамі з дзіцячага сада.**

**НА ЗДЫМКАХ: заўсёды мнагалюдна ў дзіцячым гарадку; разныя фігуркі казачных персанажаў для парку рыхтуюць вучні Мінскага мастацкага вучылішча імя А. Глебава чацвёртакурснікі Валянцін ЖУРОЎСКІ і Уладзімір МАЛАШКА.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

## ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ

# КАНЕЦ ВЕКАВОЙ МЯЖЫ

ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР не толькі спрыяльная магчымасць аддаць даніну памяці і павагі рэвалюцыйным змагарам, але і прычына азірнуцца на пройдзены шлях, сказаць шчыра пра тое, што было пасля 17 верасня 1939 года.

Аграрныя працэсы ў вызваленых раёнах Заходняй Беларусі насілі пераўтваральны характар. Звыш трох з палавінай тысяч (толькі адзін працэнт) памешчыкаў Навагрудскага, Палескага, Ваўкавыскага, Гродзенскага, Беластоцкага і іншых ваяводстваў валодалі больш як чатырма мільёнамі гектараў зямлі. Зямельныя надзелы кожнага з іх складалі, прыкладна, сто гектараў. А паны Радзівілы, Патоцкія, Сапегі, Тышкевічы і іншыя мелі дзесяткі тысяч гектараў зямель. Ім належалі таксама і лясы, карыстацца якімі без панскага дазволу селянін не меў права. Сялянам жа, якія ў Заходняй Беларусі складалі больш васьмідзесяці працэнтаў усяго насельніцтва, належала толькі трэцяя частка зямлі, і размяркоўвалася яна сярод трохсот сямідзесяці тысяч бедняцка-серадняцкіх гаспадарак, на кожную з якіх прыпадала ад аднаго да сямі гектараў. Большасць ледзь зводзілі канцы з канцамі. Многія сяляне не мелі зямлі наогул.

Яшчэ горш было з цяглавой сілай. Зразумела, што ў такіх варунках абрабаваныя сялянскія гаспадаркі разбураліся, а сяляне вымушаны былі ісці ў парабкі, якіх налічвалася каля 90 тысяч.

Захоўваўся і ўмацоўваўся ганебны перажытак, калі кожны селянін павінен быў дарма адпрацаваць на пана звыш ста дзён у год. Былі і іншыя перажыткі прыгонніцтва.

Галеча, невуцтва таксама з'яўляліся пастаяннымі спадарожнікамі селяніна Заходняй Беларусі. Вось чаму з надзеяй паглядаў ён на ўсход, адкуль чакаў збавення ад спрадвечных пакут. Ведалі многія, што там, у Савецкай Беларусі, ладзілася новае жыццё. Не было ні хцівых паноў, ні празмерных падаткаў. Узводзіліся новыя заводы, электрастанцыі, адраджалася родная мова і культура.

Ад камуністаў Заходняй Беларусі селянін ведаў пра калгасы і саўгасы, машынна-трактарныя станцыі, калектыўную працу. Прыход Чырвонай Арміі быў доўгачаканым святам, мо, таму яе сустракалі са слязамі на вачах, хлебам-соллю. Разам з арміяй прыйшлі і добрыя перамены. Больш мільёна гектараў былых панскіх зямель атрымалі сяляне ў бясплатнае карыстанне. Акрамя таго, ім выдзелілі чатырнаццаць тысяч коней, звыш трыццаці тысяч кароў, каля ста тысяч свіней і авечак.

Вясной 1940 года напярэдадні сяўбы ў вёскі заходніх абласцей Беларусі было завезена звыш дзвюх тысяч плугоў, тысячы сеялак, культыватараў, сенакасілак. Адначасова з узмацненнем сялянскіх гаспадарак сярод найбольш палітычна свядомых вяскоўцаў пачаўся рух за сумесную апрацоўку зямлі, калектыўную працу.

Аднак мы ведаем і сёння пачынаем ужо гаварыць, што пры абагульненні сялянскіх гаспадарак ва ўсходняй частцы рэспублікі часта парушаліся прынцыпы добраахвотнасці, дапускаліся перагібы, калектывізацыю, мякка кажучы, падштурхоўвалі, фарсіравалі.

У заходніх абласцях Беларусі на першым этапе калектывізацыя распачалася на добраахвотнай аснове. У 1939—1940 гадах пытанне аб ёй як аб дзяржаўнай палітыцы не ставілася. Падрыхтоўваліся ўмовы да яе паступовага ажыццяўлення. Гэта адпавядала ленінскім планам, нацэленым на шырокае кааперыраванне раздробленай сельскай гаспадаркі.

Сялянства ж было не супраць сумеснага гаспадарання. Дарэчы, яшчэ задоўга да рэвалюцыі многія работы вяскоўцы рабілі сумесна, талакой, ведалі пра яе перавагі.

У вызваленай Заходняй Беларусі на добраахвотнай аснове абагульнялася зямля, рабочая жывёла, насенне, вытворчыя будынкі, прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны. У адрозненне ад усходніх абласцей самыя простыя формы вытворчага кааперавання тут не атрымалі развіцця. Сялян арыентавалі на арцель.

Ужо ў 1939 годзе, амаль адразу ж пасля вызвалення Вілейшчыны, у вёсцы Хожава быў створаны першы калгас. У Баранавіцкай, Гродзенскай, Брэсцкай абласцях калгасы з'явіліся ў пачатку 1940 года. У адрозненне ад першых калгасаў усходніх абласцей яны былі больш трывалыя. Гэта быў вынік добраахвотнасці іх утварэння і дапамогі Савецка[illegible] [illegible]яржавы.

У 1940 годзе ва ўсіх раёнах ужо меліся трактары, іншая сельскагаспадарчая тэхніка. Разворваліся межы, пракладваліся першыя баразны на калгасных гонях, мянялася да лепшага [illegible]ыццё. Людзі прынялі нову[illegible] ладу. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца хаця б такі прыклад. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна і фашысты падыходзілі да Пінскага раёна, сяляне мясцовага калгаса ў спецыяльным бункеры схавалі свой першы трактар, каб ён не дастаўся ворагам. Пасля вызвалення раёна адкапалі яго, адрамантавалі, і ён яшчэ доўга служыў калгаснікам, перш чым стаў экспанатам краязнаўчага музея.

Задавальненне сваім новым становішчам выказала сям'я Феадзіма Грыцука з Высокаўскага раёна.

— Уласнай зямлі не мелі ні мой дзед, ні я сам,—гаварыў Феадзім Сцяпанавіч. — Усё жыццё парабкаваў у памешчыка, а калі страціў здароўе, гаспадар выгнаў мяне. Пасля вызвалення нас Чырвонай Арміяй уся сям'я ўступіла ў калгас. З вялікай радасцю працую для грамадства. Па-ўдарнаму працуюць і чатыры мае сыны.

Калгасны рух шырыўся. З дапамогай дзяржавы толькі на працягу 1940 года было арганізавана больш за сто МТС (машынна-трактарных станцый), нямала рамонтных майстэрань.

За беднякамі, якія першымі пачалі далучацца да калектыўнай працы, пайшлі і сераднякі. Усяго да пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў заходніх абласцях Беларусі было створана больш за тысячу калгасаў, у якія аб'ядналіся амаль пяцьдзесят тысяч сялянскіх двароў. У колішніх панскіх маёнтках было створана 28 саўгасаў.

З радасцю ўспрынялі сяляне пастанову ЦК КП(б)Б і ўрада рэспублікі ад 16 лістапада 1940 года аб надзяленні іх каровамі. Для іх набыцця было выдаткавана амаль восем з палавінай мільёнаў рублёў. Становуча адбілася на дабрабыце вяскоўцаў і ўвядзенне адзіных для ўсёй БССР цэн на хлеб і хлеба-булачныя вырабы, крупы, цукар, тэкстыль, абутак, мыла і іншыя тавары.

Уся Савецкая краіна дапамагала сялянам-заходнікам стаць на ногі, далучыцца да новага жыцця, пасылаючы трактары, камбайны, накіроўваючы ў вёску спецыялістаў. Была пачата на месцы падрыхтоўка трактарыстаў, камбайнераў, аграномаў, заатэхнікаў.

Усё гэта, вядома, спрыяла росту і ўмацаванню гаспадарак. Але неўзабаве добраахвотны прынцып стварэння калгасаў пачаў падмяняцца добраахвотна - прымусовым.

Ленінскае папярэджанне аб тым, што немагчыма адразу дабіцца таго, каб сельская гаспадарка, якая дагэтуль вялася ўразброд, стала грамадскай і прыняла формы буйной, ігнаравалася.

Вясной 1940 года сакратар Пінскага райкома партыі Жулега і старшыня райвыканкома Холад пры стварэнні калгаса ў вёсцы Рудавіна парушылі прынцыпы добраахвотнасці. Яны далі загад абагульняць вілы, рыдлёўкі, вяроўкі, ланцугі замест насення, коней, іншай жывёлы. Прымус, абагульненне хатняй маёмасці выклікалі асаблівую незадаволенасць людзей. Пачаліся выхады з калгаса. З васьмідзесяці шасці двароў, што складалі калгас, больш за шэсцьдзесят пакінулі яго.

Масавыя выхады са створаных пад прымусам калгасаў мелі месца ў Сапоцкінскім, Косаўскім, Докшыцкім, Нясвіжскім, Клецкім і іншых раёнах. Сялян абурала, што да стварэння калгасаў падыходзілі без усялякай падрыхтоўкі.

Абагуленую жывёлу не было дзе ўтрымліваць, не было чым карміць, і сяляне зноў забіралі яе ў свае двары. Больш таго, пачаўся масавы забой жывёлы. Пэўна ж, тут не абыходзілася без кулацкай хлусні і розных беспадстаўных чутак, гэта быў у вялікай ступені вынік нізкай свядомасці людзей.

Імкненне партыйных, савецкіх органаў фарсіраваць калектывізацыю дыскрымінавала і тых сялян, якія хацелі гаспадарыць аднаасобна. У іх абразалі зямлю, сенажаці, абразалі сядзібы. Каб паставіць сялян-аднаасобнікаў у цяжкія, бязвыхадныя ўмовы і прымусіць уступіць у калгас, ім даводзілі завышаныя мясапастаўкі.

Скаргі сялян на такія дзеянні мясцовых улад пакідаліся вышэйшымі інстанцыямі без увагі. Так пачалі выспяваць незадаволенасць, непадпарадкаванне ўладам і нават узброеныя выступленні, падпалы грамадскай маёмасці.

Цяжкае становішча склалася ў Дунілавіцкім раёне былой Вілейскай вобласці. Першы сакратар райкома партыі Давыдоўскі (разам з другім сакратаром райкома партыі Кавалёвым і старшынёй райвыканкома Уладзімеранкам), стаўшы на шлях рэпрэсій сялян-аднаасобнікаў, прымаў асабісты ўдзел у іх арыштах, наладзіў паказальны суд над дваццаццю двума сялянамі вёскі Дубрава.

Такія прыклады, на жаль, былі і ў іншых месцах, і сведчылі яны аб тым, што партыйныя, савецкія работнікі падмянялі масава-палітычную работу сярод людзей грубым адміністраваннем, рэпрэсіямі, ігнаравалі асаблівасці палітычнай, эканамічнай і нацыянальнай абстаноўкі ў заходніх абласцях Беларусі, парушалі сацыялістычную законнасць. Гэта было не што іншае, як адступленне ад марксісцкага падыходу да дробнага сялянства. Зразумела, што прымус, ганьбаванне чалавечай годнасці штучна выклікалі ў адказ варожыя адносіны паміж калгаснікамі і працаўнікамі-аднаасобнікамі.

І ўсё ж класавая барацьба ў вёсках не набыла асаблівай вастрыні, хаця кулацкія гаспадаркі складалі тут звыш пяці працэнтаў. Кулакі, а таксама ваенныя каланісты, ці, як іх называлі, асаднікі, былі ізаляваны палітычна і эканамічна ў ходзе сацыялістычных пераўтварэнняў. Ім пакідалі столькі зямлі, колькі яны маглі апрацаваць уласнымі сіламі. Гэта былі надзвычай дзейсныя, справядлівыя меры.

Але эканамічнае абмежаванне не суправаджалася адпаведн[illegible] палітычнымі адносінамі [illegible]кулакоў і асаднікаў. У [illegible] па-ранейшаму бачылі класавых ворагаў і прымалі належныя меры. З пазіцый сённяшняга дня гэта было самавольства.

У адносінах да асаднікаў і работнік[illegible] лясной аховы без дай пр[illegible]ы органы дзяржаўнай [illegible]яспекі разгарнулі масавыя рэпрэсіі. Асноўную частку іх у канцы 1939 года выселілі за межы рэспублікі, канфіскаваўшы іх маёмасць. Але па дарозе частка іх разбеглася па лясах, узброілася і пачала помсціць Савецкай уладзе. Многія былі знішчаны, астатнія ў пачатку вайны далучыліся да гітлераўцаў.

Праўда, тут трэба дадаць, што іх было не вельмі многа, ва ўсялякім выпадку, намнога менш, чым пра гэта пісалі ў сваіх аператыўных справаздачах работнікі дзяржаўнай бяспекі, якія былі схільны ў тыповай для таго часу атмасферы падазронасці перабольшваць небяспеку і паказваць, што ў заходніх абласцях Беларусі дзейнічае шырока разгалінаваны бандытызм. У адной са сваіх рэляцый яны паведамлялі «наверх», што ў выніку ліквідацыі контррэвалюцыйных падпольных і бандыцкіх фарміраванняў забіта звыш трох і арыштавана каля 28 тысяч актыўных памагатых бандытаў і стаўленікаў фашыстаў, абясшкоджана 814 падпольных тэрарыстычных, фашысцка-нацыяналістычных арганізацый, захоплена 211 мінамётаў, 193 адзінкі супрацьтанкавай зброі, тысячы кулямётаў і аўтаматаў, 47 рацый для сувязі з замежнымі цэнтрамі. Адным словам, не хапала толькі танкаў і самалётаў.

Неаспрэчна, бандытызм і аперацыі па барацьбе з ім мелі месца. Вось толькі ці ў такіх маштабах і ці ўсё гэта былі бандыты... Што ж датычыцца зброі, дык яе налічана столькі, што добрую армію можна ўзброіць.

Відавочна, што ў кожным выпадку варожай дзейнасці ва ўсім павінен быў разабрацца закон. Але гэтага не рабілася. Партыйным, савецкім, праваахоўным органам, якія не вельмі абцяжарвалі сябе ўдумлівай работай сярод людзей, лягчэй было дзейнічаць рэпрэсіўнымі метадамі.

Гэта была не боязь патэнцыяльнага ворага, гэта была жахлівая памылка, палітыка недаверу свайму народу. Памылкі ў ажыццяўленні калектывізацыі, што былі ў дзейнасці Кампартыі Беларусі, усведамляліся, для іх выпраўлення прымаліся адпаведныя пастановы, але да канца не выконваліся.

Становішча з калектывізацыяй, формамі і метадамі яе правядзення не змянілася і пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. Не даючы людзям магчымасці паспрабаваць свае сілы ў іншых формах землекарыстання, іх у калгас заганялі прымусам. Сяляне, як маглі, супраціўляліся, не выходзілі на работу, адмаўляліся плаціць падаткі, трактарысты не выконвалі норм выпрацоўкі, людзі захоплівалі і размяркоўвалі паміж сабой абагуленыя землі. Толькі ў 1949 годзе ў калгасах рэспублікі адзначана 66 тысяч выпадкаў захопу калгасных земляў.

Стаўленік небезвядомага Берыі, кіраўнік тагачаснага Міністэрства дзяржаўнай бяспекі Беларусі Цанава, даносіў свайму маскоўскаму шэфу пра бандытызм і нацыяналізм у заходніх абласцях Беларусі, патуранні мясцовага кіраўніцтва кулацкім элементам і скрытым ворагам. Была нават зроблена спроба фальсіфікаваць рэвалюцыйную і партыйную дзейнасць Сяргея Прытыцкага, які ў той час працаваў першым сакратаром Гродзенскага абкома партыі, прыпісаць яму варожыя дзеянні. Але кіраўніцтва рэспублікі і Гродзенскай вобласці абаранілі і ўратавалі нацыянальнага героя Беларусі.

А трэба сказаць, што прыклад гэты не адзінкавы.

І ўсё ж сялянская гаспадарка заходніх абласцей развівалася, мацнела, давала хлеб, бульбу, мяса, малако. У сакавіку 1948 года пастановай Савета Міністраў БССР і ЦК КП(б)Б 27 лепшых калгасаў былі занесены на рэспубліканскую Дошку гонару. З'явіліся свае Героі Сацыялістычнай Працы, ардэнаносцы, майстры высокіх ураджаяў і надояў. Ужо дзейнічала звыш чатырох тысяч калгасаў.

Амаль паўвека аддзяляюць нас ад таго часу, калі ў раёнах былой Заходняй Беларусі прыйшоў канец векавой мяжы. Многае змянілася тут. На раздольных калгасных гонях спее багаты ўраджай. Аб'яднаныя ў калектывы людзі, аглядваючыся на пройдзены, няма чаго граху таіць, нялёгкі шлях, робяць адну агульную справу. І, не сумняваюся, думаюць яны сёння: як жа ісці далей, што трэба зрабіць, каб было ўдосталь на стале і хлеба, і мяса, ці ёсць вывераная дарога? Так, ёсць. Яе вызначыў яшчэ ў першыя гады Савецкай улады У. І. Ленін. Трэба толькі не ўспрымаць вучэнне нашых вялікіх настаўнікаў, як догму, як нешта закончанае і недатыкальнае. Бо яно ж толькі краевугольныя камяні той навукі, якую Уладзімір Ільіч Ленін наказваў нам рухаць далей, развіваць па ўсіх кірунках, калі мы не хочам адстаць ад жыцця. Трэба даць сапраўдную прастору народнай ініцыятыве ў выбары форм землекарыстання. Няхай будзе моцны калгас, эфектыўна працуе саўгас, развіваецца сялянскі двор, няхай людзі самі знойдуць меру адказнасці за зямлю.

**Мікалай КУЗНЯЦОЎ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, доктар гістарычных навук.**

